# НАВУЧЫЦЦА ГАВАРЫЦЬ




АД САМАГА СЭРЦА

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭЛІТА



ЯК ПОЎНАЯ ЎТОПІЯ

СТАР. 6–7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

23.08.12-29.08.12 г.


# МАРТЫНАЎ: АДСТАЎКА ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯННЯ

Большасць сродкаў масавай інфармацыі, паведамляючы пра чарговыя кадравыя рашэнні Аляксандра Лукашэнкі, зрабілі акцэнт на тым, што Уладзімір Макей прызначаны міністрам замежных спраў. Насамрэч, галоўная навіна палягае ў тым, не куды ён прыйшоў, а адкуль сыйшоў.




## МІНІСТР ІНШАЗЕМНЫХ СПРАЎ – ПРОСТА ВЫКАНАЎЦА

Пасада кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі ў сучаснай Беларусі дзеліць другое-трэцяе месца па ступені ўплывовасці з прэм'ерскай. А міністр замежных спраў – гэта просты выканаўца знешнепалітычнай лініі Лукашэнкі. Пры яе вызначэнні шэф МЗС мае дарадчы голас. Не больш.

Дарэчы, Уладзімір Макей мае досыць багаты досвед дыпламатычнай працы. А з сакавіка 2000-га па ліпень 2008-га ён працаваў памочнікам Аляксандра Лукашэнкі па міжнародных справах.

Прызначэнне Макея чатыры гады таму на пасаду кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі шмат хто звязваў з намерамі афіцыйнага Менску ўлагодзіць справы з Захадам. Менавіта ў 2008-м пацяплелі адносіны Беларусі з Еўразвязам і пачалася адносная ўнутраная лібералізацыя.

> “Знешнепалітычная служба Еўразвяза ўжо заявіла пра сваю гатоўнасць працаваць з толькі што прызначаным кіраўніком МЗС Беларусі. Пытанне палягае ў тым, ці будзе бакам пра што размаўляць па сутнасці”.

Расійскія праімперскія аналітыкі наўпрост абвінавачвалі Макея ў тым, што ён стварыў і ачоліў у беларускай наменклатуры групоўку, якая арыентаваная на Захад. Гэта, натуральна, было перабольшваннем. Макей таксама дзейнічаў не самастойна, а ў межах тактыкі, якую вызначаў Лукашэнка. І на першым этапе кіраўніцтва Беларусі дамаглося пэўных поспехаў: аднавіла дыялог з Еўрасаюзам на сур'ёзным узроўні, далучылася да “Усходняга партнерства” і г.д.

## ЗА ПРАВАЛ НЕКАМУ ТРЭБА АДКАЗВАЦЬ

Усё закрэсліла 19 снежня 2010 году. Пасля ганебнага разгону Плошчы і арышту сямі кандыдатаў на пасаду прэзідэнта стасункі з Захадам апынуліся ў горшым стане, чым да пачатку адлігі. Еўразвяз яшчэ даваў нейкі час Лукашэнку і ягонай кампаніі, каб выправіць памылкі. Аднак галоўная перадумова – вызваленне ўсіх палітвязняў – не выкананая і дагэтуль.

За правал знешнепалітычнага курсу хтосьці мусіў адказаць.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## ЯРМОШЫНА І АВАНТУРЫЗМ

Вылучаючы кандыдатамі ў дэпутаты беспрацоўных, палітычныя партыі Беларусі праяўляюць самы сапраўдны авантурызм, заявіла старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына.

Заява была агучаная ў часе online-канферэнцыі ў «Народнай газеце», паведамляе БелТА.

Адказваючы на пытанне, чаму сярод прэтэндэнтаў на месца ў беларускім парламенце даволі шмат людзей, якія нідзе не працуюць, Лідзія Ярмошына сказала, што гэта ў асноўным пратэжэ палітычных партый:

«Відаць, ім не хапае колькаснага складу, аўтарытэтных людзей, з кар'ерай, якая склалася, таму яны вылучаюць любых жадаючых, зусім не клапоцячыся пра тое, наколькі гэтыя асобы здольныя быць выбранымі».

Такую перадвыбарчую тактыку палітычных партый старшыня ЦВК ахарактарызавала як самы сапраўдны авантурызм:

«Дзейнічае прынцып: увяжамся ў барацьбу, а там паглядзім».

Лідзія Ярмошына нагадала, што сярод патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты больш за ўсё прадстаўнікоў палітычных партый — каля 50%.

# ЯК ВЫ РЫХТУЕЦЕСЯ ДА 1 ВЕРАСНЯ?

Хутка адзін з самых хвалюючых дзён года для падлеткаў і іх бацькоў – пачатак новага навучальнага года. На апошніх — асаблівая адказнасць: забяспечыць усёй неабходнай экіпіроўкай сваіх дзетак. Гэта на першы погляд простая задача аказалася зусім няпростай. Чаму так атрымалася, спрабавала разабрацца "Тут і цяпер".



*1 верасня перастаў для многіх быць святочным днём*

**ХРЫСЦІНА ВІТУШКА, БАНКАЎСКАЯ СЛУЖАЧАЯ:**

### "БЕЛАРУСКАЕ НАДТА ДАРАГОЕ ЗАДАВАЛЬНЕННЕ".

— Уразіў асартымент. Дакладней, яго адсутнасць. Таму што ў крамах школьнай формы для дзяцей няма, а ёсць толькі адзенне для ўрачыстасцей. Там так і напісана: "для торжественных случаев". Стапрацэнтная шклавата, цалкам штучныя касцюмы з дзіўным адлівам. Быццам абалонка робатаў. А натуральных ні пінжакоў, ні штаноў знайсці так і не атрымалася. Пачытала форумы, і высветлілася, што мамы больш старэйшых дзетак ужо не хвалююцца праз гэта. У Беларусі нашмат танней замовіць праз інтэрнэт адзенне вядомай маркі альбо паехаць куды-небудзь за мяжу і зрабіць выбар там. Штодзённае адзенне для школы мы набылі ва Украіне. Калі ўлічваць яшчэ кошт пераезду на машыне і прыемную прагулку па паўднёвай сталіцы, то мы даволі выгадна апрануліся. Набылі таксама канцылярскія прылады. Яны там значна танней. І напісана на іх "альбом для малявання", а не "для рисования", што таксама спадабалася. Акрамя таго, трэба адзначыць велізарны выбар розных колераў, расфарбовак. Захапляецца дзіця караблікамі? Калі ласка, караблікі. Цікавяць кветкі? Ёсць і такое. Сшыткі, цэлыя серыі. Напрыклад, сшыткі ў клетачку, пранумараваныя, быццам падшыўка часопісаў. Іх там дванаццаць, і на кожнай вокладцы новая машынка. І гэта быццам гісторыя, якая паступова разгортваецца. Для дзяцей пачатковых класаў гэта дадатковы стымул вучыцца, пісаць, актыўна карыстацца такімі сшыткамі. Тады вучоба становіцца прыемнай гульнёй, а не нейкай пакутай на шэрай паперы.

Так што на Беларусь паглядзелі-паглядзелі і вырашылі, што "дарагая мая краіна". Не можам мы пакуль яе сабе дазволіць. Пэўна, іншым разам.

**АЛЕСЬ ПУШКІН, МАСТАК:**

### "ГЭТА ПРЫЕМНАЯ СЯМЕЙНАЯ ПРАЦЭДУРА".

— З задавальненнем. Мы з Яначкай і дзецьмі паехалі ва ўнівермаг "Беларусь" надоечы. Патрацілі там два з паловай мільёны, купіўшы касцюмчык і кашулю Міколу, Марысі — спаднічку. Так было добра хадзіць сям'ёй па школьным кірмашы, купляць гэтыя пеналы, гэтыя яркія алоўкі, кашулечкі, гальштучкі. Што да касцюмаў, то выбар вялікі. Мы спыніліся на класічным. Кошт нармальны: чатырыста пяцьдзясят тысяч за касцюм. Выбар гальштукаў для вучняў таксама вельмі неблагі.

Мікола зараз пойдзе ў трэці клас. Апране кашулю вышываную і чорны пінжачок. Карацей, будзе не ў фальклорным стылі, а як бандэравец. Ён адзіны, наш хлопчык, са ста сарака вучняў, адзін Пушкін Мікалай Аляксандравіч, трэці год будзе на беларускай мове вучыцца.

**ВЕРА ПУЛКОВІЧ (ПРОЗВІШЧА ЗМЕНЕНА ПА ПРОСЬБЕ РЭСПАНДЭНТКІ), НАСТАЎНІЦА, МІНСКІ РАЁН:**

### "ПРЫХОДЗІЦЦА КАРЫСТАЦЦА АБНОСКАМІ".

– Наша сям'я быццам не жабруе. Акрамя майго настаўніцкага заробку ў 2 мільёны рублёў, муж, урач па спецыяльнасці, атрымлівае 2,5 мільёна. Двое дзяцей. Старэйшая дачка, якая пойдзе ў шосты клас, асабліва не пацягнула за сабой выдаткаў. А вось падрыхтоўка малодшай, трэцякласніцы, да школы па папярэдніх падліках павінна была нам абысціся ледзь не ў 4 мільёны рублёў. Прыйшлося звяртацца да ўжо ношанага касцюма старэйшай дачкі. Наколькі я ведаю, так робяць і некаторыя іншыя сем'і.

**НАСТАССЯ ГУБАРЭВІЧ, МЕНЕДЖАР, МАЦІ ДВАІХ ДЗЯЦЕЙ:**

### "БЕЛАРУСКІЯ ЗАПЛЕЧНІКІ НАЙЛЕПШЫЯ!"

— Мяне сёлета прыемна ўразіла тое, што няма чэргаў за канцылярскімі таварамі. Летась трэба было адстаяць вялікую чаргу, каб купіць усе сшыткі, альбомы, алоўкі, ручкі і гэтак далей. Сёлета ў крамах зусім няма людзей. Прыходзіш, набываеш неабходнае — і праз пяць хвілін можна выходзіць. Вельмі ўразілі, але ўжо непрыемна, і цэны на канцтавары: яны сталі большыя ў разы, у параўнанні з мінулым годам. І калі збіраеш дваіх дзяцей, то ўжо даволі адчувальная сума атрымліваецца. Адзенне мы куплялі ў Польшчы, бо там нашмат танней, яно з натуральных тканін. І асартымент больш цікавы, чым у Беларусі. Але што тычыцца школьных заплечнікаў, то ў нас яны больш якасныя, чым польскія, лепш прадуманыя — сапраўды зручнейшыя для спіны дзіцяці.

**ЗМІЦЕР САЎКА, МОВАЗНАЎЦА.**

### "КУПЛЯЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ!"

— Мы сёлета набылі выключна беларускае: касцюм навагрудскі, туфлі гродзенскія, сшыткі мінскія. Дзённік зноў-такі мінскі. "Чырвоная зорка" парадавала беларусацэнтрычных вучняў і іх бацькоў выпускам (нарэшце гэта здарылася) сшыткаў, на якіх не проста напісана "сшытак", але і ёсць выявы Францыска Скарыны, Якуба Коласа. Гэта ж прадпрыемства выпусціла беларускія дзённікі для трэціх класаў, што таксама прыемна. А добрушская фабрыка як выпускала сваю прадукцыю на рускай мове (відаць, з арыентацыяй на расійскі рынак), так і працягвае нічога па-беларуску не рабіць.

Мы набытымі рэчамі задаволены.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

# МАРТЫНАЎ: АДСТАЎКА ЗАПАВОЛЕНАГА ДЗЕЯННЯ

Таму адстаўку Макею пачалі прарочыць яшчэ напрыканцы 2010-га. Аднак Лукашэнка палічыў інакш. У выніку Макей затрымаўся ў прэзідэнцкай адміністрацыі яшчэ на 20 месяцаў. Але ў рэшце рэшт міна запаволенага дзеяння спрацавала.

## СЛЕД ЛАЎРОВА

Чаму Макей звольнены менавіта цяпер? Некаторыя назіральнікі звязваюць яго перамяшчэнне з візітам Сяргея Лаўрова ў Мінск на мінулым тыдні. Маўляў, расійскі міністр замежных спраў перадаў патрабаванне крамлёўскага кіраўніцтва неадкладна прыбраць з ключавых пасадаў двух чалавек, якія замінаюць расійскім інтарэсам: Уладзіміра Макея і памочніка прэзідэнта па эканоміцы Сяргея Ткачова, які нібыта з'яўляўся адной з галоўных перашкодаў на шляху прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў. Апошняе выглядае перабольшваннем.

Найцікавайшым з'яўляецца тое, хто зойме вакантнае крэсла кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі. На момант напісання гэтага артыкулу Аляксандр Лукашэнка трымаў паўзу: прынамсі, 20 жніўня, у дзень вызвалення Уладзіміра Макея ад абавязкаў, ягоны пераемнік не быў прызначаны.

Што тычыцца новага міністра замежных спраў, то ягонае знаходжанне ў статусе неўязнога ў краіны Еўразвяза не з'яўляецца вялікай праблемай. ЕЗ можа прыпыніць дзейнасць санкцый у дачыненні да Уладзіміра Макея, каб мець магчымасць падтрымліваць хоць які кантакт з афіцыйным Мінскам. Знешнепалітычная служба Еўразвяза ўжо заявіла пра сваю гатоўнасць працаваць з толькі што прызначаным кіраўніком МЗС Беларусі. Пытанне палягае ў тым, ці будзе бакам пра што размаўляць па сутнасці. А гэта ўжо залежыць не ад Макея, а ад Лукашэнкі.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# СГА ДЛЯ САЎГАСА

**Чырвонае святло можа быць запалена як мінімум перад экспартам беларускіх грузавікоў, мясных і малочных прадуктаў у Расію.**

## ПАКУЛЬ МІНУСАЎ БОЛЬШ, ЧЫМ ПЛЮСАЎ

22 жніўня Расія нарэшце афіцыйна ўступіла ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА). Беларусь, якая ўваходзіць у Адзіную эканамічную прастору разам з РФ, будзе вымушана праверыць плюсы і мінусы гэтай арганізацыі на сабе.

Пры ўступленні ў СГА Расія ўзяла на сябе абавязкі знізіць стаўкі на некаторыя імпартуемыя тавары. Напрыклад, сярэдні тарыф на сельскагаспадарчую прадукцыю знізіцца з 13,2% да 10,8%, на прамысловыя тавары – з 9,5% да 7,3%.

Пры гэтым з 22 жніўня зніжэнне распаўсюджваецца толькі на траціну такіх тарыфаў. Яшчэ чвэрць стане актуальнай праз тры гады. Самы доўгі перыяд "адаптацыі" прызначаны для імпарта мяса птушкі – восем гадоў, легкавікоў, верталётаў і грамадзянскіх самалётаў – сем гадоў.

> "А пасля заканчэння пераходнага перыяду зніжэнне тарыфаў можа негатыўна адбіцца на большай колькасці беларускіх экспартуемых тавараў: фармацэўтычнай прадукцыі, тэлевізарах, халадзільніках, вырабах для транспарціроўкі тавараў з пластмас".

На працягу першага года пасля далучэння Расіі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі на ўсе астатнія тавары мыты зніжацца не будуць, а першае тарыфнае скарачэнне адбудзецца не раней, як праз 12 месяцаў з моманту ўступлення ў СГА. Кожная наступная тарыфная змена на той ці іншы тавар будзе адбывацца раз у год.




*Толькі клопатам пра свайго вытворцу эканоміку не паднімеш*

## ДЗЯРЖАЎНУЮ ПАДТРЫМКУ ТРЭБА БУДЗЕ ЗМЯНЬШАЦЬ

Згодна з даследаваннем, праведзеным даследчым цэнтрам ІПМ, на момант уступлення Расіі ў СГА адзінай "пацярпелай" галіной як у Беларусі, так і ў Расіі можа аказацца грузавое аўтамабілебудаванне. Паводле падлікаў даследчыкаў, эфект ад зніжэння тарыфу праз далучэнне да СГА будзе эквівалентны росту імпарту нашых грузавікоў – гэта значыць, на 8%.

А пасля заканчэння пераходнага перыяду зніжэнне тарыфаў можа негатыўна адбіцца на большай колькасці беларускіх экспартуемых тавараў: фармацэўтычнай прадукцыі, тэлевізарах, халадзільніках, вырабах для транспарціроўкі тавараў з пластмас.

Эксперты ІПМ заўважаюць, што беларускі экспарт мясной і малочнай прадукцыі таксама адчуе на сабе ціск СГА. І справа не ў росце імпарту праз зніжэнне мытаў, бо якраз на гэтую прадукцыю мытныя тарыфы зніжацца не будуць. Аднак СГА патрабуе ўпарадкаваць дзяржаўную падтрымку, і беларуская сельская гаспадарка будзе вымушана падпарадкавацца. Калі не – Расія знойдзе спосабы выціснуць беларускія прадукты са свайго рынку.

На выклік адкажам "добрым і якасным малаком"

Зрэшты, беларускае кіраўніцтва глядзіць на выклікі СГА са сваёй унікальнай пазіцыі. Напрыклад, учора, наведваючы малочна-таварныя фермы ў Мінскай вобласці, прэзідэнт краіны ўзгадаў СГА і падкрэсліў, што гэта выклік, на які беларуская сельская гаспадарка павінна адказаць "добрым і якасным малаком". Як дасягнуць "дабрыні і якасці", ён нічога не сказаў. Пакуль гэта дасягалася вялізнымі дзяржаўнымі ўліваннямі. А як інакш?

"Пытанне ў тым, каб ісці хутчэй. Нас прымусіць жыццё. Мы заўтра будзем працаваць па правілах СГА. Вы што хочаце сказаць, што мы адгародзімся ад іх? Не. Нам прыходзіцца канкурыраваць, і калі мы не будзем бегчы наперад, то нам не будзе чым падстрахавацца: у нас няма ні нафты, ні прыроднага газу, ні золата. Вось тут (у малочна-таварных фермах – М.В.) наша золата. Тры гады акупнасць. Таму я ад вас патрабую, каб за гэтыя тры гады выйшлі на такі вось узровень", — паспрабаваў выказаць сваю пазіцыю прэзідэнт.

Праўда, ад такіх слоў больш зразумела не стала.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# ЦІ АТРЫМАЕЦЦА АПАЗІЦЫЙНЫМ КАНДЫДАТАМ ГАВАРЫЦЬ АД СЭРЦА

З наступнага панядзелку кандыдаты ў дэпутаты пачнуць выступаць па дзяржаўным радыё і тэлебачанні са сваімі передвыбарнымі праграмамі.

**"Тут і цяпер"** пацікавілася, аб чым плануюць гаварыць у эфіры прэтэндэнты на дэпутацкае крэсла.



*І сапраўды*

"Але з іншага боку, фіксаваць ўвагу толькі на толькі на ўборцы вуліц або пракладцы труб – гэта таксама няправільна. Нават з такімі ўсечанымі функцыямі, як у нас, не справа парламента вырашаць задачы на ўзроўні камунальнай гаспадаркі".

### МІХАІЛ ПАШКЕВІЧ: НЕ ПРА ЛЯМПАЧКІ Ў ПАД'ЕЗДАХ

**Актывіст грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Міхаіл Пашкевіч** з радасцю памяняў бы пяць хвілін звычайнага выступа на 10 хвілін тэледэбатаў.

– У мяне яшчэ няма тэксту, які я мог бы вам прачытаць, – гаворыць Міхаіл. – Ёсць канцэпцыя кампаніі «Гавары праўду», і для нас гэтыя выбары шмат у чым тактычны момант для прасоўвання структуры. Але пытанне аб тым, што выносіць на першы план выступлення (калі мяне, вядома, зарэгіструюць), застаецца актуальным. Ведаю дакладна, што буду казаць не пра лямпачкі ў пад'ездах, а пра больш глабальныя рэчы.

З іншага боку, гэта будзе ўсяго 5 хвілін на тэлеканале "Беларусь 2", у вячэрні час. Таму мне здаецца, што гэты эфір – не самае важнае. Я буду больш надаваць увагі кампаніі "ад дзвярэй да дзвярэй". Дарэчы, нават штаб Абамы працуе па гэтай тэхналогіі.

Яшчэ зраблю акцэнт на прыцягненні беларусаў замежжа, таму што ў мяне ў Купалаўскай акрузе Мінска галасуюць ўсе беларусы, якія знаходзяцца за мяжой і ў дзень выбараў выкажуць жаданне прыйсці ў амбасаду. За мяжой няма датэрміновага галасавання, няма інтэрнатаў і воінскіх частак, якія могуць выгнаць на датэрміновае галасаванне. Там жывуць беларусы, якія ўжо зрабілі стратэгічны выбар. Хачу патлумачыць, што я раблю стаўку не на дэмакратычную эміграцыю – гэтых людзей не трэба агітаваць прыйсці на выбары, бо яны выступаюць за байкот. За межамі Беларусі жыве шмат людзей, якія з'ехалі з нашай краіны і засталіся ў эміграцыі.

Адмаўляцца ад выступу на радыё і на тэлебачанні я не буду. Але калі будзе магчымасць змяніць пяць хвілін выступу на 10 хвілін тэледэбатаў з кандыдатам ад улады, то, вядома, выберу тэледэбаты...

### ЯРАСЛАЎ БЕРНІКОВІЧ КЛАПОЦІЦЦА ПРА ДЗЯЦЕЙ

**Глыбоцкі актывіст Яраслаў Бернікoвіч**, які спыніў сваё членства ў Партыі БНФ спецыяльна для таго, каб пайсці на выбары, шчыра прызнаецца: калі давядзецца выступаць перад тэлекамерай, будзе змагацца з хваляваннемкожды ж дзень .

– Нягледзячы на тое, што выступ яшчэ не падрыхтаваны, я ведаю, пра што буду

**ЭКСПЕРТЫЗА**

### АЛЕГ МАНАЕЎ: "ГАВАРЫЦЬ ТРЭБА АД СЭРЦА..."

**Аб чым варта сказаць кандыдатам у дэпутаты, каб крануць выбаршыкаў? На якія тэмы рабіць асноўны акцэнт? Пра гэта мы спыталі вядомага сацыёлага, прафесара Алега Манаева.**

– Нейкага спецыяльнага рэцэпта на гэты конт у мяне няма, але я лічу, што гаварыць трэба пра тое, што хвалюе людзей і чым будучы дэпутат збіраецца ім дапамагчы, – раіць Алег Цімафеевіч. – Як паказваюць вынікі аналіза грамадскай думкі, пытанні вялікай палітыкі, змены выбарчага заканадаўства хвалююць людзей значна менш, чым сацыяльна-эканамічная праблематыка. Але з іншага боку, фіксаваць ўвагу толькі на толькі на ўборцы вуліц або пракладцы труб – гэта таксама няправільна. Нават з такімі ўсечанымі функцыямі, як у нас, не справа парламента вырашаць задачы на ўзроўні камунальнай гаспадаркі.

Галоўнае падчас выступу зачараваць выбаршчыка. Каб людзі, слухаючы выступ, адчулі: калі ўзнікне нейкая няпростая сітуацыя, гэты чалавек не забудзецца пра сваіх выбаршчыкаў і будзе абараняць іх правы. Як гэта зрабіць – ўжо іншае пытанне...

Гаварыць трэба ад сэрца. Мы з вамі жывём у краіне, якая ўсяго 20 гадоў таму была камуністычнай. І таму ў нас не спрацуюць тэхналогіі, якія даюць паспяховыя вынікі ў Еўропе ці Амерыцы

Што тычыцца падрыхтоўкі да выступленняў, таго, як трымацца перад камерай, правільна выступаць, гэта, безумоўна, таксама важны момант. Але калі ўзяць сярэднестатыстычнага кандыдата, які проста хоча стаць дэпутатам, то мне цяжка ўявіць, што ён будзе трэніравацца з прафесійнымі дыктарамі, кінарэжысёрамі ці аператарамі.

Я ўзгадваю апытанні, якія сацыёлагі рабілі ў 90-х гадах. Тады людзей больш за ўсё прыцягвалі ў кандыдатаў у дэпутаты шчырасць, сумленнасць, рашучасць. А ўжо як чалавек праявіць гэтыя якасці - гэта яму вырашаць ...

гаварыць, калі справа дойдзе на эфіра, – говорыць Яраслаў. – Перш за усё – праблемы горада. У Новаполацку разбітыя двары, у дэфіцыце паркоўкі... Яшчэ хацеў бы закрануць тэму выбарнасці старшыняў аблвыканкамаў. Прапаную скараціць колькасць ідэолагаў, а вызваленыя грошы накіраваць на аздараўленне дзетак і дапамогу шматдзетным сем'ям.

Мне цяжка сказаць, наколькі я падрыхтаваны гаварыць перад камерай. Аднак буду старацца. Адмаўляцца ад эфірнага часу не плaную: маю намер выступіць і на радыё, і на тэлебачані.

**СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ**

Экс-кіраўнік Нацбанка, спікер Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч заклапочаны тым, як сказаць усё самае важнае і пры гэтым ўкласціся ў адведзены час.

– Я буду казаць пра тое, што ў нас няма выбараў – гэта самы галоўны тэзіс, – распавядае Станіслаў Антонавіч (Кальварыйская акруга № 104, г. Мінск)

– Пачну з таго, што ўсё пазнаецца ў параўнанні. І калі параўнаць нашы дасягненні ва ўмовах незалежнасці з той жа Літвой, Польшчай і іншымі краінамі па фонду аддачы, прадукцыйнасці, заробку, пенсіях, то стане ясна, што мы значна адстаем ад усіх суседзяў. І прычына гэтага – у аўтарытарнай мадэлі кіравання. Нагадаю пра тое, што ў 2011 годзе ў нас здарыўся абвал і цэн, і нацыянальнай валюты. І ўсё гэта адбылося не ва ўмовах нейкага калапсу, як, напрыклад, пры развале СССР, а ва ўмовах так званага росквіту. Калі б гэта было ў дэмакратычнай краіне, то паслужыла б падставай для расследавання і палітычных адставак чыноўнікаў. Можа быць, адстаўкі ўраду. У нас жа нічога гэтага не здарылася. Аўтарытарны рэжым не дазваляе грамадству кіраваць сваім жыццём.

Яшчэ скажу пра тое, што каштоўнасць выбараў надзвычай высокая. І АГП заклікае людзей пратэставаць, не з'яўляцца на выбарчы фарс. У нас ёсць праграма мадэрнізацыі Беларусі, аднак за доўгія гады мы ні разу не змаглі выступіць з ёй перад грамадскасцю. У нас няма выбараў, таму што няма галоснасці, публічнасці, шырокага абмеркавання праблем.

Адзінае, трэба будзе ўкласціся ў пяць хвілін. Чытаць па паперцы - будзе дрэнна выглядаць. Казаць свабодна - магу не ўкласціся. Таму трэба дакладна разлічыць час. Калі, вядома, справа дойдзе да выступаў.

**МАРЫНА МІТ**

**АФІЦЫЙНА**

## ПЯЦЬ ХВІЛІН НА ЎСЁ

Кандыдаты ў дэпутаты маюць права на адзін бясплатны выступ са сваёй перадвыбарнай праграмай па дзяржаўным ТБ і адно – па дзяржаўнаму радыё.

Выступы прэтэндэнтаў на дэпутацкае крэсла будуць доўжыцца да 14 верасня. Графік размеркавання паміж акруговымі камісіямі эфірнага часу складзены такім чынам, каб у перыяд перадвыбарчай агітацыі кожны кандыдат у дэпутаты змог рэалізаваць прадастаўленае яму права.

Цэнтрвыбаркам прадугледзеў, каб выступу прыпадалі на самыя рэйтынгавыя перыяды, калі найбольшая колькасць гледачоў і слухачоў знаходзяцца дома. Кандыдаты ў дэпутаты прадставяць свае перадвыбарчыя праграмы па працоўных днях: у тэлеэфіры з 19.00 па 20.00, па радыё з 18.00 да 19.00. Як паведамляе belta.by, тэле-і радыёдэбаты будуць праходзіць у той жа час, эфір для іх таксама будзе прадастаўлены бясплатна.

Прэтэндэнты на дэпутацкія мандаты, якія вылучаюцца па горадзе Мінску, змогуць агучыць сваю перадвыбарчую праграму і паўдзельнічаць у дэбатах у эфіры тэлеканала «Беларусь 2» і на хвалях радыёстанцыі «Сталіца». Кандыдаты, зарэгістраваныя па абласцях, акрамя Мінскай, выступяць па мясцовым тэле-і радыёвяшчанню. Балаціруецца ад Мінскай вобласці эфірны час пададуць тэлеканал «СТВ» і «Сталіца».

# ГОМЕЛЬСКАЯ КАРЦІНА “МАСЛАМ”

**Ура, мы зноў выбіраем! Выбіраем дэпутатаў парламенту, нашу заканадаўчую ўладу. Нам бы радавацца, плёскаць у ладкі, але не радуецца, не плёскаецца.**



## А СЭНС?

І так у большыні звычайнага люду. Спытай у любога сустрэчнага: ці ведаеце вы свайго дэпутата? Людзі глядзяць на цябе, як на дзівака ці марсіяніна і толькі пацiскаюць плячыма.

Дык хто ў нас у такім разе і дзеля чаго выбірае парламентароў, якіх мала хто ведае ў іхніх жа акругах?

Адзін гамельчук адказаў на гэта так: “Ну хто іх выбірае? Вядома, вусаты наш любімы прэзыдэнт. Хто ж яшчэ ў нас можа выбраць?! А людзі – галоўнае, каб прыйшлі на ўчасткі паставіць свой подпіс. А там ужо вырашана ўсё без нас”.

Пра будучыя верасьнёўскія выбары, але ў мінулым часе, гаворыць і вылучэнец у кандыдаты ад партыі левых “Справядлівы свет” Віктар Назаранка з Калінкавічаў. Апрача пратакольнага вылучэння ад партыі, Назаранка зарэгістраваў яшчэ і групу па збору подпісаў. Хацеў заручыцца на выбарах падтрымкай мясцовых выбарцаў. І на табе – сутыкнуўся з вялікай апатыяй, якая пануе ў асяродку выбарцаў.

## НІЧОГА НЕ ЗМЕНІЦЦА…

“Людзі абыякавыя да выбараў, – канстатуе патэнцыйны кандыдат. – Яны пераканaны, што нічога не зменяць – такія ў асноўным размовы. Многія проста здзіўляюцца: вы што, не ведаеце выніку? Вам не паведамілі яшчэ, што выбары ўжо адбыліся? Ніхто з вас у парламент не патрапіць”.

Жыхароў Калінкавічаў у Палаце прадстаўнікоў дзве кадэнцыі прадстаўляла былая намесніца старшыні Гомельскага аблвыканкама, пенсіянерка Раіса Ціханская. Нейкай заўважнай пазіцыі ў заканадаўчым органе за восем мінулых гадоў яна не выявіла. Зараз у акрузе ўлады спрабуюць вылучыць кандыдатам у дэпутаты без пяці хвілін пенсіянера, дзейнага начальніка Гомельскага аддзялення Беларускай чыгункі. І гэта таксама не дабаўляе выбарцам імпэту.

Дарэчы, пакуль дэмакратычныя актывісты тужацца збіраць подпісы паходамі “ад дзвярэй да дзвярэй”, некаторыя праўладныя вылучэнцы карыстаюцца сваім адміністрацыйным рэсурсам.

*Заканчэнне на стар. 8*

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КІРАЎНІЦКАЯ ЭЛІТА ЯК ЎТОПІЯ

**Як стварыць такую эліту, думалі на першай адпаведнай нарадзе з удзелам прадстаўнікоў бізнес-саюзаў. Што з гэтага можа атрымацца, высвятляла "Тут і цяпер".**



*Пакуль вось такая прыблізна эліта*

## З'ЕХАЛІ НЕ ЎСЕ

Удзельнікі гэтай нарады, паводле афіцыйных паведамленняў, ужо абмеркавалі магчымасць стварэння структур, прызначэннем якіх з'яўляецца "інкарпарацыя найлепшых узораў сусветнай кіраўніцкай практыкі, а таксама пытанні навучання і падрыхтоўкі прафесійных кіраўнікоў, неабходнасць і перспектывы развіцця карпаратыўнага кіравання ў Беларусі".

Меў магчымасць пагаварыць пра нацыянальныя эліты і прадстаўнік бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя прафесара М.С.Куняўскага. Кіраўнік саюза Георгій Бадзей сцвярджае, што тэма не новая і нешта ў гэтым кірунку заўсёды робіцца. "У нас пры саюзе працуе лекторый "Эфектыўны менеджмент", наш клуб дырэктараў — гэта таксама своеасаблівы інструмент для падвышэння кампетэнцыі кіраўнікоў прадпрыемстваў. Мы гатовы і ўдзельнічаем у гэтай працы...", — аптымістычна даводзіць спадар Бадзей пра поспехі ў фарміраванні нацыянальных эліт.

На пытанне, ці не надта позна падумалі пра фарміраванне эліт, калі столькі таленавітых людзей з'ехалі з краіны ў пошуках лепшых умоў для самарэалізацыі, Георгій Пятровіч парыруе:

— Не ўсе з'ехалі, нехта ж застаўся і працуе. І ў нас даволі многа людзей, якія і па ўзросце, і па вопыце ў працы могуць удзельнічаць у гэтай ініцыятыве. Напрыклад, былы дырэктар "Мілавіцы" заўсёды ўдзельнічае ў нашых мерапрыемствах, мае вялізны досвед. Мы не ставім нейкіх крытэрыяў, але найперш мусіць быць вопыт кіраўніцтва буйным, паспяховым прадпрыемствам. Такія людзі сапраўды маглі б складаць нашу эканамічную эліту, такімі кадрамі нідзе ў свеце не грэбуюць. На чарговым пасяджэнні кіравання нашага саюза мы вынесем на абмеркаванне пытанне па стварэнні савета па садзейнічанні карпаратыўнаму кіраванню, — дзеліцца планамі па фарміраванні кіраўніцкіх эліт Беларусі Георгій Бадзей.

## ТАКАЯ АТРЫМАЕЦЦА І ЯКАСЦЬ

— Кіраўніцкія эліты ёсць у любым грамадстве, незалежна ад ладу яго арганізацыі. Тут размова ідзе пра тое, каб падвысіць якасць эліт. Як гэта будзе вырашацца — цяжка сказаць. Але мусіць быць пэўная сістэма — адукацыя, сістэма матывацыі, працэдура прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў і распараджэння рэсурсамі. Гэтым быццам і плануецца займацца. Але вы пытаеце, якая якасць атрымаецца на выхадзе з улікам існуючай мадэлі дзяржаўнага ладу? Такая і атрымаецца..., — сцісла пракаментаваў навіну адміністрацыйны дырэктар Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра **Павел Данейка**.

Крытычна, але з адабрэннем ідэі ствараць эліты ставіцца былы паспяховы прадпрымальнік палітык **Леў Марголін**:

— У Мінэканоміцы добра разумеюць, што трэба нешта рабіць бадай што лепш, чым у якім другім ведамстве. Можа ўзнікнуць пытанне, ці не надта позна пра гэта падумалі. Позна. Але лепш так, чым ніколі. Многія паспяховыя бізнесмены, якія ў 1990-я або ў пачатку 2000-х гадоў мелі тут добры бізнес, ці самі з'ехалі, ці перавялі бізнес у іншыя краіны, ці проста спынілі дзейнасць. Але сэнс у іншым: застанецца ўсё на ўзроўні дэкларацый ці пачнуцца рэальныя дзеянні. Калі другі варыянт, то гэта можна толькі вітаць. Сённяшняя падзея, напрыклад, вельмі яскрава ілюструе стан спраў: памочнікам кіраўніка дзяржавы па эканоміцы прызначаны Пётр Пракаповіч. Калі кадравы патэнцыял у эканамічнай сферы абмяжоўваецца выбарам паміж Ткачовым і Пракаповічам, то час падаваць сігнал SOS. Мяркую, адукаваных спецыялістаў у нас многа і магчымасці іх рыхтаваць ёсць. Але як гэтых людзей далучыць да дзяржаўнага кіравання? Павінна быць нейкая сістэма стажыровак, напрыклад, у Мінэканоміцы, у Палаце прадстаўнікоў — калі б там сапраўды нешта вырашалася... Ці будзе сапраўды нешта рабіцца — пабачым.

Спадар Марголін выбітным мэнеджарам назваў Анатоля Капскага. "Ён пачынаў сваю кар'еру ў 1990-я ў прыватным бізнесе, цяпер кіруе буйным прадпрыемствам. Яго вопыт на пасадзе гендырэктара ААТ "БАТЭ" і старшыні кіравання аднайменнага футбольнага клуба — адзін з нямногіх прыкладаў таленавітага кіраўніцт-

ва. Чаго гэта каштавала яму з маральнага боку — гэту тэму мы апусцім, але факт застаецца фактам", — гаворыць Леў Марголін.

## ТОЛЬКІ РЭАЛЬНАЯ ЎЛАДА І ЎПЛЫЎ

Да трактоўкі тэрміна "эліта" існуе два асноўныя падыходы. Каштоўнасны — да эліты адносяць людзей, якія валодаюць больш высокімі інтэлектам, талентам, здольнасцямі, кампетэнтнасцю ў параўнанні з сярэднімі паказчыкамі канкрэтнага соцыуму. Другі падыход ацэньвае прыналежнасць да эліты па факце валодання індывідуамі рэальнай уладай і ўплывам. Без жорсткай прывязкі да іх інтэлекту і маральна-этычных якасцей.

Кіраўнік Савета інтэлігенцыі **Уладзімір Колас** прадстаўляе эліты першага тыпу. І ён да ідэі Міністэрства эканомікі ставіцца вельмі скептычна. "Гэта ўтапічны падыход. Эліты не ствараюць, яны з'яўляюцца самі, даказваюць сваё права на існаванне ў такой якасці. І гэта мусіць адбывацца ў справядлівай канкурэнцыі, — эмацыянальна разважае аб працэсе селекцыі эліт Колас. — У адваротным выпадку мы атрымліваем "недаробленыя", несапраўдныя эліты. Што тычыцца азначэння "нацыянальны", то яно намінальнае. У нас калі чалавек хоча прабіцца наверх, то мусіць трымаць нос па ветры, і мы ведаем, адкуль гэты вецер дзьме. Гаварыць па-беларуску, цікавіцца гісторыяй, выказваць свае меркаванні наконт нейкіх падзей — усё гэта не вітаецца. І атрымліваем дэнацыяналізаваную эліту, якая не мае каштоўнасцей і ў выніку свабодна гандлюе сваёй дзяржаўнасцю, гістарычнай спадчынай. Канечне, у нас ёсць людзі, якія маюць і прыродныя здольнасці, і адукацыю, але брак нацыянальнага аспекта перашкаджае нам быць паўнавартаснай краінай".

Паказальна, што слабасць нацыянальнай эканамічнай эліты напрыканцы 19 — пачатку 20 стагоддзя — буржуазіі і дваранства — гісторыкі называюць адной з прычын нешматлікасці і запаволенага паспявання нацыянальнай інтэлігенцыі Беларусі.

**ВОЛЬГА ХВОІН**

# ЮРЫСТУ-ПАЧАТКОЎЦУ – 1,5 МІЛЬЁНА РУБЛЁЎ, А ІНЖЫНЕРУ – 2,5

З васьмі інжынераў, якія ўжо адпрацавалі размеркаванне на Аршанскім інструментальным заводзе, засталіся толькі чацвёра, сцвярджае euraradio.fm.




*Такое цяпер выглядае клоунадай*

Андрэй пасля машынабудаўнічага факультэта БНТУ два гады працаваў канструктарам на барысаўскім заводзе "БАТЭ". Не застаўся, бо маленькі заробак.

*"Вельмі нізкі. Крыху больш за 200 долараў інжынеру-канструктару. Размеркаванне скончылася ў жніўні. Цяпер перабраўся ў Мінск. Хачу засвоіць новую спецыяльнасць — праграмаванне. Збіраюся на курсы"*, — расказвае Андрэй.

І дадае, што хоча праграмаваць пад IPhone.

Інжынер мяняе спецыяльнасць: вядома, у праграмістаў заробкі больш за 200 долараў.

Праз тры тыдні ў **юрыста Насты** сканчваецца размеркаванне. Дзяўчына скончыла ВНУ два гады таму і двойчы за гэты час пераразмяркоўвалася. Юрыстам працаваць больш не хоча.

Наста: *"Спярша размеркаванне было ў Шаркаўшчынскі раён, пасля пераразмеркавалася ў Мёрскі раён, у СВК. Хацелася ў вёску. Адпрацавала там 9 месяцаў, умовы жыцця не вельмі. Потым пераехала ў Віцебск, пераразмеркавалася юрысткансультам у "Віцебскі гаспадарчы гандаль". Зразумела, што юрыдычная праца не мая, можа на гэта паўплывалі няўдалыя месцы працы. Плану мяняць прафесію"*.

Цяпер Наста зарабляе каля 1,5 мільёна рублёў. У мёрскім калгасе плацілі на пару соцень тысяч рублёў больш. Тут не толькі прафесію зменіш. Плануе адпачыць і пашукаць працу ў спорце.

**Выпускнік хімфаку БДУ Дзяніс** вучыўся на платным, але… папрасіў размеркавання. Спецыяліста ўладкавалі ў Акадэмію навук. Праз два гады Дзяніс адтуль сыходзіць.

*"Прапанавалі размеркавацца ў Інстытуце мікрабіялогіі. Калі прыйшоў, плацілі 450 тысяч. Напрыканцы, можа, мільён. Звольнюся з той працы і праз знаёмых знайшоў пасаду ў Інспекцыі па раслінаводстве. Два месяцы шукаў. Заробак — сярэдні па Мінску"*, — кажа Дзяніс.

Значыць, зарабляе больш за 3 мільёны. Ну, гэта нашмат лепш за Акадэмію навук…

У Мінскім дзяржаўным палітэхнічным каледжы Еўрарадыё знаходзіць выкладчыцу, якая… не звальняецца пасля адпрацоўкі. **Выпускніца гістфаку БДУ Вікторыя** не знайшла іншай працы. Калі знойдзе — сыдзе.

Вікторыя: *"У мяне ўжо другая катэгорыя, каля 2 мільёнаў атрымліваецца на 1,5 стаўкі"*.

У гаспадарцы "Новая друць", што на Магілёўшчыне, знаходзім **загадчыка гаспадарчай часткі,** які прыехаў па размеркаванні і застаўся на… пяць гадоў(!). Бо завёў сям'ю.

*"Я скончыў Аграрна-тэхнічны ўніверсітэт, а другая вышэйшая — эканоміка і кіраванне. У гэтай жа ВНУ. Сам я з Сенніцы Мінскага раёну. Калі размяркоўвалі, сказалі, каб паднімаў сяло. Тут абзавёўся сям'ёй, але цяпер планую перабрацца ў Мінск"*, — расказвае Андрэй.

Пакуль, маючы дзве вышэйшыя адукацыі, Андрэй працуе за 2,5 мільёны рублёў.

На Аршанскім інструментальным заводзе — цякучка кадраў. З васьмі маладых спецыялістаў, якія прыехалі два гады таму пасля ВНУ, засталася палова.

*"Сыходзяць, бо не жыхары Оршы. Адпрацаваў і паехаў. Дзяўчыны выходзяць замуж і едуць да мужа"*, — расказваюць на Аршанскім інструментальным заводзе.

Сёлета завод паслаў у ВНУ шэсць заявак на спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Прыехалі толькі чацвёра. Не дзіва: інжынеры тут зарабляюць 2,7-3 мільёны рублёў.

**АРЦЁМ МАРТЫНОВІЧ**

# ВЫБАРЫ ПА-ГОМЕЛЬСКУ: ТАКАЯ ВОСЬ КАРЦІНА "МАСЛАМ"

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*

Прыкладам, пенсіянерка, галоўны ўрач абласнога кардыялагічнага дыспансера, цяперашняя дэпутатка аблсавета і член Савета Рэспублікі Ганна Лапаціна, якая балатуецца ў Гомельскай-Прамысловай выбарчай акрузе №35.

## МОЦНЫЯ КРОКІ ВА ЎЛАДУ НА ПЕНСІІ

Галіна Краўчанка – сябра руху "За свабоду" – яна таксама вылучаецца кандыдатам у дэпутаты ў Прамысловай акрузе №35, распавяла: "Па заканадаўству збор подпісаў на працоўным месцы і ў працоўны час забаронены. Але калі чальцы маёй ініцыятыўнай групы збіралі подпісы на Рэчыцкай шашы, жанчына-інвалід апавяла, што была на прыёме ў лекара, і той прапанаваў падпісацца за галоўнага ўрача Ганну Лапаціну. Жанчына ў прынцыпе не магла адмовіцца".

> "Але калі чальцы маёй ініцыятыўнай групы збіралі подпісы на Рэчыцкай шашы, жанчына-інвалід апавяла, што была на прыёме ў лекара, і той прапанаваў падпісацца за галоўнага ўрача Ганну Лапаціну. Жанчына ў прынцыпе не магла адмовіцца".

Персіянерку Лапаціну ўладныя структуры мяркуюць пасадзіць у дэпутацкае крэсла, якое да восенскіх выбараў займае іншая пенсіянерка – былая кіраўніца адміністрацыі Савецкага раёна Таццяна Філімончык. У Палату яе прасунулі чатыры гады таму, калі ёй было амаль 59 гадоў.



*"Маслам" з'яўляюцца такія стосы бюлетэняў*

Зрэшты, не толькі "слабы пол" робіць на пенсіі такія моцныя крокі у заканадаўчую ўладу.

У Гомельскай-Сельмашаўскай акрузе №32 сваю ініцыятыўную групу зарэгістраваў генеральны дырэктар ВА "Гомсельмаш", пенсіянер па ўзросту Валер Жмайлік. Мяркуецца, што ў дэпутацкім крэсле ў верасні ён заменіць іншага пенсіянера – былога старшыню Гомельскага гарвыканкама Аляксандра Бяляева, які адсядзеў адну кадэнцыю ў Палаце прадстаўнікоў і якога цяпер пасунулі ў бок.

## ТАМ, ДЗЕ ПРАЙШЛА ГРУПА ВАШКОВА

У Рэчыцы афіцыйнаму кандыдату ад улады, дырэктару метызнага завода Адаму Вашкову, які таксама мае пенсійны ўзрост, дапамагаюць зьбіраць подпісы звыш ста чалавек. Альтэрнатыўны прэтэндэнт Антон Няфёдаў, сябра кампаніі "Гавары праўду", зазначае: "Там, дзе прайшла група Вашкова, збіраць подпісы практычна немагчыма. Выбарцы чамусьці лічыць, што падпісвацца яшчэ і за іншага прэтэндэнта на кандыдата яны не маюць права. Некаторыя нават пачынаюць крычаць: "Я свой голас аддаў!" Не разумеюць, што голас аддаваць будуць 23 верасня. Людзі проста непісьменныя".

Рэчыцкі незалежны назіральнік за выбарамі, кіраўнік рэгіянальнай арганізацыі БНФ Валер Пуціцкі зазначае, што, дасядзеўшы на сваіх пасадах да пенсіі, многія мясцовыя начальнікі літаральна плішчацца ў Палату прадстаўнікоў. Нават старшыня Рэчыцкага райвыканкама Пётр Шостак, якому, дарэчы. яшчэ далекавата да пенсіі, падаўся ў кандыдаты, прычым не ў сябе ў раёне, а ў Буда-Кашалёўскай выбарчай акрузе №38, куды ўваходзяць таксама Веткаўскі, Чачэрскі і частка Жлобінскага раёнаў. Шостака ўжо вылучылі кандыдатам камунальнае прадпрыемства "Чачэрскае" і Веткаўская раённая бальніца. Подпісы за старшыню ў акрузе збірае і ягоная ініцыятыўная група. Свой Рэчыцкі раён ён, відаць, не без падказкі, "уступіў" пенсіянеру Вашкову, які, у сваю чаргу, вызваляе дырэктарскае крэсла.

## ТОЛЬКІ ПРАГНІСЯ

"Усіх, хто неяк прагнуўся, – лічыць Валер Пуціцкі, – усіх пасылаюць на заслужаны адпачынак па добрую пенсію праз Палату прадстаўнікоў. Каб была магчымасць, яны б і ў войска накіроўвалі б, каб вайсковую атрымлівалі ці міліцэйскую".

І ў дадатак важны штрых – у 1098 участковых камісій, якія сфармаваны уладай у рэгіёне і праводзяць парламенцкія выбары, уключаны толькі 1 прадстаўнік апазыцыйнай палітычнай партыі. Перасадка начальнікаў са свайго крэсла ў парламенцкае забяспечанана на 100 працэнтаў.

Як любіў прымаўляць галоўны герой фільма "Ліквідацыя" Давід Гоцман з Адэсы: "Карціна маслам!"

**АНАТОЛЬ БОЙКА**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 23.08.12
Тыраж 299 экзэмпляраў